Народная Воля
24 КРАСАВІКА 2004 г.

ПОСТАЦІ

# Фердынанд

Адшукаць сёння новы дакумент ці нават маленькі невядомы факт з жыцця любога слыннага сына Беларусі мінулага стагоддзя — або вялікая ўдача, або апантанасць, памножаная на звычайную выпадковасць і шанц. Самае значнае ўжо сістэматызавана архівістамі, прадстаўлена ў музеях, апісана навукоўцамі і гісторыкамі, вывучана краязнаўцамі.

Шчыра радуемся кароценькаму аўтографу Якуба Коласа, цікавай драбніцы з жыцця Элаізы Пашкевіч, пікантнай дэталі штодзённага побыту магнацкіх дынастый Хаткевічаў, Радзівілаў, Храптовічаў. А нядаўна ў Мінск прывезлі дзверы таго самага нумара ў гатэлі "Масква", дзе правёў апошнія гадзіны свайго жыцця Янка Купала. І я падумаў: калі ўжо такая пашана дзвярам, то я тым больш маю маральнае права лічыць да сённяшняга дня невядомы ў Беларусі фотаздымак Ф.Рушчыца не самым горшым папаўненнем культурнай спадчыны Бацькаўшчыны.

## Як яно было

У тым далёкім ужо 1975-м восень прыйшла нечакана, і ажно да самага першага снегу валожынскія лясы паслухмяна гнуліся пад халодным ветрам і кудлатымі хмарамі, што кожны дзень нізка плылі над поймай Беразіны. Я, малады журналіст раённай газеты "Працоўная слава", збіраўся на законныя выхадныя, суботу і нядзелю, ў камандзіроўку. Ад маёй роднай Сакаўшчыны да Багданава — дзве гадзіны пехам або хвілін трыццаць на старэнькім, яшчэ з польскіх гадоў ровары, бо аўтобусы і ў тыя часы не надта радавалі землякоў рэгулярнымі рэйсамі.

Бацька на ўсялякі выпадак праверыў помпу; маці сабрала ў дарогу немудрагелісты сялянскі перакус; Сямён Уладзіміравіч Ломаць, мой мілы рэдактар і дабрэйшы чалавек, ад якога за год работы ў Валожыне навучыўся шмат чаму, што ў далейшым жыцці было вельмі дарэчы, адарыў камандзіровачным пасведчаннем і парадай на поўным сур'ёзе: "Гарэлку толькі не пі там, кажы, што не прывык. А то я ведаю гэных багданаўскіх — так не адпусцяць!" У жоўтай камандзіровачнай паперцы значылася мэта небывалага юнацкага парыву ў неслужбовы час — збор матэрыялаў для нарыса пра "мясцовага жыхара тав.Рушчыца...". У Багданаве 30 гадоў таму яшчэ жыло шмат людзей, якія ведалі і памяталі Фердынанда Эдвардавіча. У сельсавеце маладзенькая сакратарка параіла найперш сустрэцца з Марыяй Іосіфаўнай Ясенчак. На маё здзіўленне: "А чаму менавіта з ёй?" — аргумент быў прыведзены па-вясковаму важкі і для мяне абсалютна пераканаўчы:

— А Ясенчак магілы Рушчыцаў даглядае. І без аніякага прымусу. Гэта ж, самі падумайце, пра нешта гаворыць, — адказная асоба сельсавета хораша ўсміхнулася маладому журналісту, што прыехаў у яе вёску "ажно з самога раёна!".

...Яна лёгка падымаецца з лаўкі, дзе мы даўно ўжо гаворым у засені старых садовых дрэў, і прыносіць з хаты здымак, які паўвека таму Рушчыцы падарылі ёй "на добрую памяць".

47 гадоў берагіняй гэтай фотакарткі была яна, ціхая і прыемная беларуская жанчына Марыя Іосіфаўна Ясенчак.

28 гадоў спыненае віленскім майстрам імгненне чалавечага шчасця праляжала, як зараз модна казаць, "без видимого движения" ў маім асабістым архіве.

Адразу патлумачу, чаму так здарылася, што публікацыя дакумента далёкіх трыццатых расцягнулася на дзесяцігоддзі і толькі сёння пабачыла свет. У 1975-м, як аказалася, выдавецкая тэхніка была абсалютна няздольнай зрабіць клішэ хоць больш-менш выразным. Гэта праўда: час не пашкадаваў фота і не дадаў яму якасці. Таму замест двух шчаслівых людзей непазбежна атрымліваліся дзве чорныя бляклыя плямы. Да "лячэння" здымкаў камп'ютэрам заставалася яшчэ дваццаць гадоў... Таму мой тагачасны нарыс у Валожынскай "Працоўнай славе" наш таленавіты фотакарэспандэнт Пётр Кавяза быў вымушаны ілюстраваць рэпрадукцыямі з выдадзенага ў Польшчы мастацкага каталога твораў Ф.Рушчыца. А пасля былі восем гадоў творчай работы на Чукотцы. Вярнуўшыся ў 1983 годзе ў Беларусь, знайсці дома, у вёсцы, папку з дакументамі аб Рушчыцу не змог, з жалем за ўласную неабачлівасць палічыў іх страчанымі назаўсёды. І толькі нядаўна знайшоў усё ў летнім доміку роднай сядзібы ў Сакаўшчыне. Сярод вялікага складу рознай непатрэбшчыны — метадычных дапаможнікаў камуністычных часоў, школьных часопісаў, даўніх газет і брашур — ляжала і зялёная прашнураваная папка. Гэта мае надта неабыякавыя да парадку бацькі, маючы зімой вольны час, "пачысцілі" хатнюю бібліятэку. Так на звалку гісторыі па недаглядзе, выпадкова амаль не трапіў і Фердынанд Эдвардавіч...

## Лісты з Варшавы

Дык хто вы, пан Рушчыц?

Дзіўна, але гэта так: для састарэлых землякоў, жанчын, што некалі працавалі ў маёнтку, ён так і не стаў панам, гаспадаром навакольных зямель. "Ну які гэта пан, калі і не прыкрыкнуў ніколі на нас, за руку з кожнай вітаўся раніцай, песні пеў разам з намі, снапы вязаў на полі, а яшчэ кніжкі чытаць прымушаў", — дзівілася, памятаю, суседка Марыі Іосіфаўны бабулька Уладзіслава Гардзей. Дзеля справядлівасці скажу: але і мастаком свайго гаспадара ў Багданаве таксама не ўспрымалі. Што яны, семнаццацігадовыя, мала-, а то і зусім непісьменныя, разумелі ў далёкія дваццатыя ў мастацтве?

Для багданаўцаў Рушчыц найперш быў Чалавекам.

Адсюль і столькі павагі жыло ў словах, столькі радасці палымела ў вачах, столькі добрай катэгарычнасці было ва ўспамінах! Яны і сёння не забыліся, з кім сябраваў гэты адукаваны чалавек і чым ганарыўся, што цешыла яго сэрца, а чаго яно катэгарычна не прымала. У рэшце рэшт, як найвышэйшае праяўленне чалавечай павагі і любові, мае субяседніцы шчыра бедавалі, што Фердынанд Эдвардавіч так ціха адышоў у нябыт. У 1975 годзе, восенню, я даслаў у Варшаву ліст дачцэ мастака Яніне, у якім і расказаў пра пачутае, убачанае, нагаданае мне сялянам Багданава. Праз два тыдні атрымаў ад яе пісьмо з цёплымі і ўдзячнымі словамі за клопаты аб бацькавай памяці. І стаў ведаць пра знакамітага земляка намнога больш, чым раней.

**З ліста пані Яніны:** *"Мой бацька быў адзіным сынам у сям'і і атрымаў добрае выхаванне. З маладых гадоў, акрамя польскай, вывучаў таксама нямецкую, французскую мовы, шмат маляваў. Захаваліся малюнкі шасцігадовага Фердынанда. Калі вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, то меў шмат сяброў. Але найбольш зблізіўся з Вільгельмам Пурвітам — латышскім пейзажыстам. Быў у добрых адносінах з Рыловым. У час канікулаў выязджаў самастойна пісаць пейзажныя эцюды. Майго бацьку цікавіў тады марскі пейзаж. Ён двойчы пабываў у Крыме і на берагах Балтыкі. Дыпломная работа бацькі аб'ядноўвала некалькі карцін, дзве з якіх былі кампазіцыямі, а трэцяя ("Вясна") адлюстроўвала прыроду Багданава. Пазней яна была набыта П.Трацяковым для сваёй славутай галерэі..."*



У Нацыянальным музеі Варшавы я папрасіў паказаць мне Рушчыца. "Усё, што мы маем, — удакладніла экскурсавод, — ці маеце цікавасць да пэўных работ?" — "Усё, але спачатку "Зямлю". Праз хвіліну я глядзеў на куточак сваёй Бацькаўшчыны, якім яго Фердынанд убачыў у 1898 годзе.

...Неба — як жыццё: хмурнае і халоднае. Напэўна, восень або ранняя вясна. Напяўшы спіны, стомлена цягнуць плуг валы. Што за чалавек за чапігамі? На што спадзяецца і чаго чакае ад лёсу? І ці чакае ўвогуле? На карціне жыццё, якое яно ёсць. Твор пісаўся ў Багданаве маладым Рушчыцам. Яму не было тады трыццаці. Гэта яго зорны час, які для творцы не паўтараецца двойчы, які нельга вярнуць.

Рушчыц яшчэ не ведае, што не створыць нічога больш значнага, чым багданаўскі цыкл. Усё пазнейшае таксама будзе бліскучым, таленавітым. Але не лепшым.

**З ліста пані Яніны:** *"Багданава і ваколіцы былі для Рушчыца скарбонкай творчых задум і сюжэтаў для карцін. Тут напісаны найбольш вядомыя яго работы. Цікавы факт: млын каля вёскі Дзесятнікі выступае як дэталь у многіх карцінах і малюнках. Самы выдатны варыянт — "Стары млын" захоўваецца у Нацыянальным музеі Кракава... У лісце сваім хачу сказаць, што бацька мой быў чалавекам эмацыянальным. Яго чаравала архітэктура Вільні, яго хвалявала народнае мастацтва, адміранне якога ён спрабаваў спыніць, бо бачыў яго вялікую эстэтычную каштоўнасць. У 1905 годзе ў час экскурсіі ў Шчорсы Рушчыц рабіў эскізы народных касцюмаў, якія ў той час насілі вясковыя жанчыны. На валожынскіх кірмашах скупляў саматканае палатно, прыгожыя жаночыя хусткі і фартухі..."*

## Дом з вокнамі на сонца

— Ну, то пойдзем, — сказала Марыя Іосіфаўна. Лёгка паднялася з лаўкі. Па-дзявочаму хараша завязала хустачку. Першай ступіла за парог, моцна бразнуўшы клямкай старых, як і сама, дзвярэй. Полем крочым на тое месца, дзе стаяў калісьці маёнтак Рушчыцаў. Цяпер тут нічога няма. Што не захавалі гады — данішчыла вайна і пажар у 1963 годзе. Толькі разбураныя скляпы, падмуркі, невялікі ручаёк ды старыя, як і гэтыя камяні, дрэвы напамінаюць аб тым, што раней тут жыў чалавек...

— А зараз я пакажу вам карціну Рушчыца, — сказала на развітанне бабуля Марыя.

— У вёсцы захавалася работа мастака? — не паверыў я.

— А што вы дзівіцеся? Яго тут памятаюць, шануюць.

І павяла мяне па нешырокай вуліцы ў адну з вясковых хат. Паказала вялікую карціну, расказала гісторыю яе стварэння: як называецца, дзе маляваў Рушчыц палатно, калі, хто бачыў гэта і як перадаў людзям.

Я паверыў. Хацеў парадаваць Яніну Фердынандаўну і адправіў у Варшаву фотакопію. *"Што датычыцца карціны, здымак якой вы прыслалі, то гэта не работа бацькі,* — праз колькі часу адпісала мне Яніна. — *І касцёл у Вішневе ён не афармляў, а толькі паказаў яго архітэктуру і інтэр'ер у некаторых карцінах і малюнках".*

Так рушацца легенды.

Але сам факт іх існавання мяне парадаваў і да шчымлівасці ўсхваляваў. Як жа трэба любіць мастака-земляка, каб вось так, усёй вёскай шчыра верыць у тое, чаго не было! Я не стаў тады расчароўваць багданаўцаў. Няхай жыве ў іх сэрцах цудоўная казка, няхай радуе іх, няхай майскай вясёлкай зіхаціць адчуванне свята. Няхай родзіць і не бяднее на хлеб зямля, з якой чэрпаў натхненне самабытны майстра.

Кажуць, дом яго ў Багданаве быў збудаваны адмыслова і вокны ўсіх светлых пакояў выходзілі на сонца, на ўсход. Так узводзяць жытло толькі добрыя людзі са светлымі душамі. Сёння на месцы маёнтка загаіліся чорныя выжарыны, маўчаць час і старыя дрэвы. Толькі чаму яны старыя? Гэта людскі век кароткі, а дрэвы — яны вехі вечнасці. Ім яшчэ жыць ды жыць. Жыць і маўчаць. Інакш не бывае.

**Леанід АНОП.**

*в.Багданава Валожынскага раёна.*

## Мы — чацвёртыя. Пакуль

*У Кіеве працягваецца чэмпіянат Еўропы па цяжкай атлетыцы.*

Пазаўчора спаборніцтвы пачалі жанчыны ў катэгорыях 69 и 75 кг. Беларуская цяжкаатлетка Вераніка Лукашэвіч, якая зараз перайшла з катэгорыі 65 у 75 кг, заняла 4-е месца.

А вось наш бронзавы прызёр Алімпіяды ў Сіднеі Сяргей Лаўрэнаў на гэтым чэмпіянаце заваяваў "бронзу" ў двляборʼі і "золата" ў рыўку.

У агульнакамандным заліку беларуская зборная пакуль займае 4-е месца.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Спасцігаюць свае вытокі

Беларуская мова ўжо звыкла гучыць у дзіцячым садку рабочага пасёлка Руба, што знаходзіцца ў наваколлі Віцебска, але адміністрацыйна падпарадкоўваецца Чыгуначнаму раёну абласнога цэнтра.

У красавіку ў дашкольных установах раёна адбыўся этнаграфічны фестываль "Беларускі карагод зорак". У шэрагу дзіцячых садкоў прайшлі тэматычныя ранішнікі, фальклорныя гульні і канцэрты.

А ў Рубаўскім садку аформлены этнаграфічныя куткі, у якіх можна ўбачыць прадметы беларускай даўніны, фрагменты тыповай сялянскай хаты. Праведзена таксама выстава творчасці выхавацельніц і бацькоў — аплікацыі, саломапляценне, вышыўка ды іншае.

Удзельнічаючы ў музычна-харэаграфічнай кампазіцыі, дзеці даведаліся аб тым, як спрадвек адзначалі нашы продкі традыцыйныя народныя святы — ад зімовых Каляд да восеньскіх Дажынак.

СУД!

## Забойца хаваўся пяць год

Пяць год хаваўся ад праваахоўных органаў злачынца-рэцыдывіст, былы жыхар вёскі Перамонт Лёзненскага раёна Віцебшчыны А.Падзёнак, які ў студзені 1999 года пасля чарговага запою пачаў па сваёй завядзёнцы здзекавацца з сужыцелькі, а ў выніку забіў маладую жанчыну.

Крыху ачомаўшыся, злачынца "адзначыў" падзею за пляшкай гарэлкі з сябрамі, а потым знік у невядомым напрамку.

Доўгія, карпатлівыя пошукі следчых завяршыліся затрыманнем забойцы міліцыянерамі Чаркаскай вобласці Украіны, дзе ў апошні час хаваўся А.Падзёнак.

Віцебскі абласны суд прыгаварыў забойцу да 9 год пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ШЧЫРА

## Мужнасць і праўда Зянона Пазьняка

Паважаная "Народная воля"!

Праз газету ад усяго сэрца віншую з 60-годдзем з дня нараджэння Зянона Станіслававіча Пазьняка — старшыню Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ, змагара за свабоду і незалежнасць роднай Беларусі.

Мне пашчасціла бачыць і чуць яго на мітынгу ў Мінску ў 1989 годзе, куды мяне запрасіў Яўген Шмыгалёў, швагар жонкі — сябра і паплечнік Зянона Станіслававіча. Ён падарыў мне чарнавікі іх суместнага артыкула "Курапаты — дарога смерці", надрукаванага ў 1998 годзе з прадмовай вялікага сына Беларусі Васіля Быкава.

Да таго часу, калі яшчэ моцнай была дыктатура КПСС — КПБ, голасна сказаць праўду аб сталінскім генацыдзе супраць беларускага народа — быў мужны ўчынак. Усё жыццё Зянона Пазьняка — гэта подзвіг мужнасці і праўды ў імя і шчасце роднага краю. Ён, пасля Васіля Быкава, — сумленне і гонар нашай нацыі.

Жадаю Зянону Станіслававічу здароўя і даўгалецця на карысць нашай Бацькаўшчыны. Прыйдзе час, і ў наша акенца загляне сонца!

**Васіль ПАНАСЮК, настаўнік-пенсіянер.**

*в.Лелікава Кобрынскага раёна.*

# О белорусских профсоюзах

### Заявление Белорусской партии труда

По инициативе руководства Федерации профсоюзов Беларуси 1 мая в Беларуси отмечается 100-летие белорусских профсоюзов. Праздничные мероприятия проводятся по согласованным с Администрацией президента и правительством плану и сценарию. Эти юбилейные торжества носят характер поддержки правящего режима, который уже в течение десяти лет ведет борьбу с белорусским профсоюзным движением, его правом на независимое и самостоятельное развитие. В своих действиях белорусские власти полностью отвергают нормы международного права, ратифицированные Беларусью Конвенции Международной организации труда, нарушают Конституцию и действующее законодательство.

Рабочее движение в Беларуси возникло в конце XIX века, в период развития капиталистических отношений. Оно зарождалось в борьбе наемных работников за свои права. Рабочее движение Беларуси прошло свой путь становления от стихийных забастовок, забастовочных и стачечных комитетов, самодеятельных организаций взаимопомощи к созданию профсоюзов. Ликвидация политического бесправия, легализация профессиональных союзов, введение восьмичасового рабочего дня, принятие трудового законодательства наряду с повышением заработной платы, создание нормальных условий труда и обеспечения работой становились основными требованиями белорусских рабочих.

Власть всегда вела борьбу против профессиональных союзов: от полного их запрета как независимых и свободных организаций, от попыток увести профсоюзы от политической и экономической борьбы до абсолютного подчинения их государству в период установления Советской власти.

В 1990 году белорусские профсоюзы получили возможность начать самостоятельное и независимое развитие. Массовое выступление белорусских рабочих в апреле 1991 года дали толчок развитию свободного профсоюзного движения.

В уставах профсоюзов появляются записи о недопустимости членства в профсоюзах администрации, работодателей. Начинается этап восстановления основных функций профсоюзов, таких как проведение коллективных переговоров, заключение тарифных соглашений, коллективных договоров по уровню зарплаты, условиям труда и социальным гарантиям, организации массовых выступлений, забастовок и протестных акций.

Положения о независимости профсоюзов, провозглашенные Всемирной декларацией прав человека и закрепленные Конвенциями МОТ, находят свое место в законодательных актах, принимаемых в Беларуси, в том числе в Законе Республики Беларусь "О профессиональных союзах" и Конституции Республики Беларусь. У рабочих Беларуси появляется право создавать профессиональные союзы, а также вступать в них по своему выбору.

Начиная с 1995 года, президент Лукашенко проводит политику подавления свободных профсоюзов, а после проведенного референдума и изменения Конституции в 1996 году практического уничтожения независимого профсоюзного движения в Беларуси.

В 2002 году, после прихода под давлением власти к руководству ФПБ заместителя главы Администрации президента Л. Козика и последующего изгнания из ФПБ лидеров, стоящих на позициях независимости профсоюзов, Федерация профсоюзов Беларуси практически становится частью общей государственной системы, контролируемой и руководимой авторитарным режимом президента Лукашенко.

В отличие от советского периода в Беларуси в настоящее время сохраняются независимые и свободные профсоюзы, которые сохраняют функции и традиции белорусского профсоюзного движения, возникшего более 100 лет назад.

ФПБ при нынешнем руководстве перестала быть организацией, защищающей права наемных работников. Превращенная ставленниками режима в часть аппарата государственной власти, ФПБ не может быть наследником созданных более ста лет назад независимых и самодеятельных организаций белорусских рабочих.

Только независимые и свободные профсоюзы, а также профсоюзные организации и активисты, стоящие на позициях независимости профсоюзного движения и защищающие эти позиции, могут считать себя причастными к истории профсоюзного движения Беларуси.

Профсоюзы могут быть только свободными и самостоятельными организациями, независимыми от государства и власти, от администрации и работодателя. Иначе это уже не профсоюзы, а корпоративные организации тоталитарных режимов.

Да здравствуют независимые и свободные профсоюзы Беларуси!

## О чем говорил рабочий Роман?

*Комиссия по расследованию Международной организации труда (МОТ) заканчивает работу в нашей стране. Официальная пропаганда замалчивает проводимый ею ход расследования. Между тем лидеры ряда организаций и общественные активисты свидетельствуют о важных фактах из жизни страны. Вот о чем рассказывал Комиссии рабочий из Гродно* **Иван РОМАН.** *Его высказывания изложены на сайте praca-by.info.*

"Если международная общественность будет отмалчиваться по поводу того, что происходит в Беларуси, — нас превратят в рабов", — считает профсоюзный активист Иван Роман, который дал свидетельские показания Комиссии по расследованию МОТ.

Первое, о чем рассказал Иван Роман членам Комиссии, как ему приходилось добывать документы из судебного дела, которое рассматривалось по его иску о восстановлении в должности на гродненском заводе автоагрегатов. *"На мое письменное заявление о выдаче копий документов судья ответил, что это невозможно, потому что не работает ксерокс, — рассказывает Иван Роман. — А эти документы мне нужны были не только для представления Комиссии, но также для того, чтобы обжаловать судебные решения в высших инстанциях. Я думаю, что этот факт более ярко показал Комиссии, с какой страной они сейчас работают".*

Иван Роман свидетельствовал о том, как после его незаконного увольнения в ноябре прошлого года еще двое рабочих ушли с завода, так как администрация угрожала их уволить с такой же формулировкой, как Романа. Один из рабочих посвятил заводу 20 лет жизни. После увольнения Роману так и не удалось найти новое место работы. Заводы автоагрегатов и карданных валов отказались принимать его на работу, несмотря на то, что он пришел туда по направлению городского Центра занятости.

*"Только власти виноваты в том, что стране могут угрожать экономические санкции. Но надо что-то делать, потому что сегодня нас выгоняют с заводов, а завтра сгонят в резервации",* — сказал Иван Роман.

СТОП-КРАН

## «Саша и Сирожа» опять в опале

Уже ставшие известными не только у нас, но и в ближнем зарубежье комики Саша и Сирожа опять попали под государственные "молотки" — на сей раз прикрыли проект комиксов "Саша и Сирожа" в спортивной газете "Прессбол".

*"Из Министерства информации нам поступило предупреждение о том, что речь наших комических персонажей не соответствует нормам русского языка,* — рассказал вчера корреспонденту "Народной воли" главный редактор газеты "Прессбол" **Владимир Бережков.** *— В самом Министерстве мне объяснили, что использовать "трасянку" на страницах издания — это некрасиво и по определению она не имеет права на жизнь. Поэтому проект и пришлось закрыть".*

"Прессболу" также втолковали: кроме того, что лексика "Саши и Сирожы" не только искажает "общепринятые нормы русского языка", но к тому же она "вульгарная и табуированная". Дескать, народ не поймет эту "трасянку", а возможно, даже и оскорбится ввиду задетого нравственного чувства.

В кулуарах Администрации президента рассказывают, что докладную президенту на этот прессболовский проект накатала его пресс-секретарь **Наталья ПЕТКЕВИЧ,** которая до глубины души была возмущена вольностями "Саши и Сирожы".

Напомним, что ранее комики ушли с Первого музыкального канала, а затем им пришлось ретироваться и с Белорусского телевидения. Но вот вопрос: вынесут ли предупреждение самому БТ, на котором частенько отдельные персонажи (тоже смешные) разговаривают исключительно на "табуированной трасянцы"?

**Алесь СИВЫЙ.**

## Любят, не любят

Любят ли новополоцкие чиновники женщин? Статистика дает отрицательный ответ на этот вопрос. 62% безработных, стоящих на учете в Новополоцком городском центре занятости населения, составляют женщины. А среди безработных, стоящих на учете уже более года, представительницы прекрасного пола составляют 80%. Наиболее уязвимыми на рынке труда являются матери, воспитывающие малолетних детей, детей-инвалидов, работницы предпенсионного возраста, а также те, кто не имеет профессии и опыта работы, сообщает сайт praca-by.info.

Говорят, что все дело в ситуации, сложившейся из-за монопроизводственной нефтехимической структуры экономики Новополоцка, при которой основные предприятия направлены на использование мужской рабочей силы. Но статистика свидетельствует об обратном, о дискриминации женщин при приеме на работу и увольнении. Так, в числе тех, кто был высвобожден с предприятий города в связи с сокращением штатов и зарегистрировался в центре занятости, доля женщин превышает 76%. Среди безработных, потерявших работу из-за нарушения трудовой дисциплины, женщины составляют лишь 10%.

СКАНДАЛ

*Хведар КАРАЛЕНКА:*

# «Ствараецца ўражанне, што гэта «заказ»...

***Апошняя жонка* Уладзіміра Мулявіна, *некалі вядомая актрыса* Святлана Пенкіна *і кампазітар* Ігар Лучанок *напісалі ліст у Дзяржаўны сакратарыят Савета бяспекі Беларусі пра парушэнне сваіх аўтарскіх правоў з нагоды незаконнага выкарыстоўвання і тыражыравання запісаў "Песняроў". З Савета бяспекі адразу паступіла каманда праваахоўным органам заняцца гэтай справай. Цяпер стваральніка першага сайта "Песняроў"* pesniary.com Хведара Караленку *прыцягваюць да адказнасці за распаўсюджванне кантрафактнай прадукцыі.***

***22 красавіка справу пачалі разглядаць у Мінскім раённым судзе.***

***Раней беларускія суды падобных спраў не разглядалі.***

Напрыканцы 1997 года Хведар Караленка, прыхільнік творчасці "Песняроў", вырашыў стварыць так званы інтэрнет-музей, прысвечаны легендарнаму ансамблю.

*"Пасля наведвання дзесяткаў сайтаў, прысвечаных "Beatles", "Deep Purple" і іншым групам, у мяне з'явілася пачуццё крыўды, што ва ўсім Інтэрнеце такі шэдэўр сусветнай музыкі, як "Песняры", зусім ніяк не прадстаўлены!* — гаворыць Хведар. — *"Песняры" ўзгадваліся толькі ў Гібралтарскай энцыклапедыі прагрэсіўнага року. Дарэчы, гэта адзіная група з усяго былога СССР, якая мае гонар быць прадстаўленай у названай энцыклапедыі.*

*У свой вольны час мы збіралі дыскаграфіі, скупалі вінілавыя запісы ў букіністычных крамах і па аб'явах. Інфармацыя збіралася не адзін год, мне дапамагалі дзесяткі людзей з розных краін. Хтосьці распрацоўваў дызайн сайта, хтосьці дасылаў артыкулы, рэдкія фотаздымкі... І сайт нарэшце набыў папулярнасць. Мы аказвалі і пакуль аказваем актыўную падтрымку складальнікам анталогіі "Песняроў", якой займаецца Інстытут праблем культуры".*

У 2002 годзе на славутай "Рок-каранацыі" аўтарскі праект Караленкі быў прызнаны ***"Лепшым музычным сайтам".***

— І раптам з ліста Лучанка і Пенкінай высвятляецца, што нібыта я на "Песнярах" зарабляю вялікія грошы, — гаворыць Хведар. — Мяне выклікаюць да следчага, я вымушаны нешта тлумачыць. Цяпер вось распачаўся суд...

**— І што ад Вас патрабуюць?**

— Шчыра кажучы, я нават не ведаю, таму што гэта быў не звычайны грамадзянскі іск, а зварот у нейкія ўладныя структуры. У мяне на руках пакуль няма ніякіх дакументаў па гэтай справе, менавіта таму я і прасіў суддзю адкласці справу і прадаставіць мне пэўны час для знаёмства з усімі паперамі. Суд пайшоў насустрач: разгляд справы перанеслі на 27 красавіка.

**— Хто прадстаўляе Вашы інтарэсы ў судзе?**

— Адваката ў мяне няма, бо няма грошай, каб яго наняць. Будуць дапамагаць сябры, знаёмыя юрысты.

**— Хведар, скажыце, а самі "Песняры" ведалі пра існаванне Вашага праекта?**

— Яшчэ як ведалі! Свайго сайта тады ў іх не было, а *pesniary.com* наведвалі ўсе тыя, хто ведаў, што такое Інтэрнет і як ім карыстацца. У нашых форумах неаднаразова ўдзельнічалі тыя, хто меў самае непасрэднае дачыненне да ансамбля.

**— На сённяшні дзень існуе толькі Ваш сайт "Песняроў" ці ёсць іншыя?**

— Па маёй інфармацыі, зараз існуе толькі тры афіцыйныя сайты: дзяржаўных "Песняроў", "Беларускіх песняроў", і "Песняроў", якімі кіруе Барткевіч. Ёсць яшчэ таксама прыхільніцкі сайт, створаны грамадзянамі Расіі. Там, дарэчы, таксама размешчаны песні, якія можна "скачаць", але на іх у суд чамусьці ніхто не падае...

**— А якое дачыненне да гэтай справы мае Ігар Лучанок?**

— Ігар Міхайлавіч мае аўтарскія правы на музыку некаторых песень, якія выконвалі "Песняры". Святлана Пенкіна — адна са спадкаемцаў Мулявіна, але яна мае права толькі на частку аўтарскіх правоў. Калі на сайце змешчаны песні, напісаныя не Лучанком і не Мулявіным, яны не маюць на іх ніякіх правоў. Цікава, што калі я пытаўся выйсці на кантакт з удзельнікамі падзей і патлумачыць ім сітуацыю, маўляў, усё рабілася на голым энтузіязме, *для вашай жа папулярнасці*, у адказ чуў прыкладна наступнае: гандляры неліцэнзійнымі дыскамі таксама гавораць, што робяць усё для папулярызацыі ансамбля. Паводле іх слоў, не мае ніякага значэння, атрымліваў я нейкія грошы ці не: мае месца факт парушэння аўтарскіх правоў, а гэта павінна прадухіляцца.

Самае цікавае, што на сайце *pesniary.com* ніколі не размяшчаліся песні. Былі толькі спасылкі, якія заўсёды вялі на іншы сервер. Да таго ж песні "Песняроў" у фармаце MP3 даступны на шматлікіх іншых сайтах. Але Лучанок і Пенкіна чамусьці зрабілі ацэнт менавіта на маім сайце. Ствараецца ўражанне, што гэта "заказ", кімсьці пастаўлена задача стварыць прэцэдэнт, правесці паказальны працэс, знішчыць сайт.

На дадзены момант мне "свеціць" штраф. Але калі мяне на самай справе прызнаюць вінаватым і прысудзяць хаця б капейку штрафу замест падзякі, я адмоўлюся ад далейшага кіраўніцтва праектам. І пра далейшы лёс сайта я пакуль нічога сказаць не магу...

**Святлана Пенкіна** *адмовілася даваць якія-небудзь каментарыі на гэты конт. На пытанне журналіста "Народнай волі" пра суд над Караленкам яна адказала, што ўпершыню пра гэта чуе. І што асабіста яна ў суд ні на кога не падавала.* ***"Все это чушь полнейшая!"*** *— катэгарычна заявіла Пенкіна і паклала трубку.*

**Дачка Уладзіміра Мулявіна Марына** *гаворыць, што ніякіх прэтэнзій да Караленкі не мае і што ёй па-чалавечы шкада гэтага хлопца...*

*Паводле інфармацыі з крыніц у праваахоўных органах, іншых парушальнікаў аўтарскіх правоў Лучанка і Пенкінай пакуль не знайшлі. Але актыўна шукаюць.*

*Цікава, ці знойдуць?..*

**Марына КОКТЫШ.**

**На здымку:** *так выглядае галоўная старонка сайта.*

ПЕСНЯРЫ

